# Голас Радзімы

№ 16 (2158)
19 красавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Гімназія, ліцэй... Гэтыя словы, здавалася б, узятыя з нейкага іншага жыцця і іншай эпохі, раптам сталі нашымі. Адзіная, працоўная, політэхнічная, як яшчэ нядаўна называлі сярэднюю школу, паціху дзеліцца манапольнай уладай на педагагічнай ніве. Працяглы час у краіне адукацыйная справа ставілася так, што віталася нівеліроўка асобы, ураўчілаўка. Дзеці са звычайнымі здольнасцямі і асабліва таленавітыя, са значным інтэлектуальным і цыялам, займаліся па адных навучальных праграмах і падручніках. Да ўсіх педагогамі прымяняўся аднолькавы падыход. Але прыйшоў час, і згубнасць такога метаду стала відавочнай. Нашаму грамадству сёння, як ніколі, патрэбны высокаадукаваныя, кваліфікаваныя кадры. А сапраўдны інтэлект і культуру трэба выхоўваць, нават песціць. І, безумоўна, ствараць для гэтага адпаведныя матэрыяльна-арганізацыйныя ўмовы. Менавіта з такой мэтай і быў заснаваны пры Белдзяржуніверсітэце першы ў Мінску ліцэй — фактычна сярэдняя школа, але з вельмі сур'ёзным вывучэннем матэматыкі і фізікі. Праўда, спецыялізаваныя школы існавалі ў нас і дагэтуль, і ліцэй не быў бы ліцэем, калі б там адначасова вельмі сур'ёзна не ставіліся да паглыбленага вывучэння літаратуры, замежных моў, фізічнай культуры, танцаў, этыкі і эстэтыкі... І гэта лагічна, бо тут рыхтуюць не проста будучых фізікаў ці матэматыкаў. Тут выхоўваюць людзей высокай культуры, якія будуць несці яе далей.

НА ЗДЫМКАХ: сённяшнія ліцэісты; Наталля ДВОРЫНА — псіхолаг ліцэя; урок інфарматыкі для ліцэістаў праводзіцца ў лабараторыях Белдзяржуніверсітэта. На першым плане — Алена МІКУЛЬСКАЯ; урок танца вядзе Вольга ГУСІНЕЦ; фізікі і матэматыкі спаборнічаюць не толькі ў вучэбных аўдыторыях.

Фота С. КРЫЦКАГА.







*У чым драматызм перажываемага моманту? Краіна як бы знаходзіцца на піку таго самага пераходу з аднаго стану ў другі, аб якім я гаварыў. У эканоміцы ў нас, можна сказаць, сапраўднае міжцарства. Ужо не працуе камандная сістэма, але яшчэ не ўступіла поўнасцю ў свае правы новая, заснаваная на выкарыстанні эканамічных рычагоў, стымуляванні зацікаўленасці людзей у выніках сваёй працы, раскрыцці ўсіх творчых магчымасцей чалавека. Тое ж і ў палітычнай сферы: партыя, у адпаведнасці з яе новай роляй палітычнага авангарда, ужо адмаўляецца і ў значнай меры адмовілася ад аператыўнага кіравання гаспадаркай, вырашэння ішных практычных пытанняў дзяржаўнага жыцця, а новыя Саветы яшчэ толькі становяцца на ногі, не асвоілі ў поўнай меры сваіх уладных функцый, не скамплектавалі кампетэнтны апарат.*

*Словам, з адной сістэмы выйшлі, а ў другую яшчэ не ўвайшлі. Па сутнасці такі ж пераходны стан існуе цяпер практычна ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці. Гэта датычыць і партыі, якая працягвае выконваць ролю галоўнага рухавіка перабудовачнага працэсу і ў той жа час сама павінна перабудоўвацца, прычым рашуча, інакш ёй пагражае небяспека быць адціснутай з авангардных пазіцый.*

*Самае важнае — цяпер у нас ёсць платформа, якая вызначае асноўныя параметры выбранага шляху, мэты і задачы перабудовы як грамадскага працэсу, ролю самой партыі ў сацыялістычным грамадстве, якое абнаўляецца. Вядома, платформа, як і праект новага Статута, вынесеныя на абмеркаванне камуністаў, усяго народа, сустракаюць неадназначныя адносіны. Выказваецца многа дапаўненняў, заўваг, абгрунтаванай крытыкі. Усё гэта будзе належным чынам і абагульнена, і ўлічана пры дапрацоўцы гэтых дакументаў, абмеркаванні іх ужо на самім партыйным з'ездзе.*

*Разам з тым мы сутыкнуліся са спробамі адвесці партыю з выбранага ёю шляху, з пагрозай расколу. З аднаго боку, утварылася кансерватыўная плынь, якая баіцца паглыблення перабудовачнага працэсу або нават прама кліча назад, да форм жыцця, якія склаліся яшчэ пры Сталіне і мала змяніліся ў мінулым дзесяцігоддзі. Такое вяртанне было б згубным, надоўга пазбавіла б краіну ўсякага шанцу на адраджэнне, асудзіла яе на гібенне. Я ўжо не гавару аб тым, што яно немінуча суправаджалася б абавязковымі атрыбутамі ранейшых парадкаў: рэпрэсіямі, несправядлівасцю, незлічонымі ахвярамі, кансервацыяй галечы.*

*Нам трэба бачыць, да чаго гэта можа [illegible] весці, каб займаць цвёрдую грамадзянскую пазіцыю. Упэўнены, што наш народ, моладзь у першую чаргу рашуча адхіляць спробы вя[illegible]нуць краіну ў мінулае, расстацца з набы[illegible]намі свабодай.*

*З другога боку, грамадству прапануюць [illegible]мовіцца ад сацыялістычных прынцыпаў, [illegible] сутнасці прызнаць памылковым увесь шлях, пройдзены пасля кастрычніка 1917 года. Гэта азначала б паставіць пад пагрозу тыя сацыяльныя заваёвы, якія з'яўляюцца важнай пазітыўнай часткай нашага гістарычнага вопыту, сысці з магістральнага шляху грамадскага развіцця. Бо многія сацыялістычныя ідэі і каштоўнасці ўжо сталі і ўсё больш становяцца нормай жыцця ўсяго чалавецтва на парозе XXI стагоддзя. І без нашага пазітыўнага вопыту сучасная цывілізацыя была б, як цяпер агульнапрызнана, зусім іншай.*

*Гэта азначала б таксама здрадзіць памяці старэйшых пакаленняў савецкіх людзей, якія ў найцяжэйшых умовах вялі барацьбу за індустрыялізацыю краіны, стварэнне сучаснай навукі і тэхнікі, вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар вайны і перамаглі, прынёсшы свабоду народам Еўропы.*

*(З прамовы М. С. ГАРБАЧОВА на XXI з'ездзе ВЛКСМ 10 кастрычніка 1990 года).*

ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА



**Больш за 1 300 аперацый на рахунку артапеда-траўматолага Валерыя Разанскага—галоўнага ўрача Гомельскай абласной бальніцы. Майстэрства хірурга максімальна скарыстоўвае Валерый Іванавіч на карысць людзям. У ліку першых медыкаў працаваў ён і ў радыяцыйнай зоне адразу пасля чарнобыльскай трагедыі. І па сёння прымае самы актыўны ўдзел у розных формах аздараўлення пацярпеўшых ад аварыі на атамнай электрастанцыі.**

**НА ЗДЫМКУ: Валерый РАЗАНСКІ пасля паспяховай аперацыі.**

ЗАЯВА ТАСС

## ПРАЎДА ПРА КАТЫНЬ

**На сустрэчах паміж прадстаўнікамі савецкага і польскага кіраўніцтва, у шырокіх колах грамадскасці доўгі час узнімаецца пытанне аб высвятленні абставін гібелі польскіх афіцэраў, інтэрніраваных у верасні 1939 года. Гісторыкамі дзвюх краін былі праведзены старанныя даследаванні катынскай трагедыі, уключаючы і пошук дакументаў.**

**У самы апошні час савецкімі архівістамі і гісторыкамі знойдзены некаторыя дакументы аб польскіх ваеннаслужачых, якія ўтрымліваліся ў Казельскім, Старабельскім, Асташкаўскім лагерах НКУС СССР. З іх вынікае, што ў красавіку—маі 1940 года з прыкладна 15 тысяч польскіх афіцэраў, якія ўтрымліваліся ў гэтых трох лагерах, 394 чалавекі былі пераведзены ў Гразавецкі лагер. Асноўная ж частка «перададзена ў распараджэнне» ўпраўленняў НКУС адпаведна па Смаленскай, Варашылаўградскай і Калінінскай абласцях і нідзе больш у статыстычных справаздачах НКУС не ўпамінаецца.**

**Выяўленыя архіўныя матэрыялы ў сва[illegible] укупнасці даюць магчымасць зрабіць вывад аб непасрэднай адказнасці за злачынствы у катынскім лесе Берыі, Мяркулава і іх памагатых.**

**Савецкі бок, выказваючы глыбокае шкадаванне ў сувязі з катынскай трагедыяй, заяў[illegible] што яна з'яўляецца адным з цяжкіх злачын[illegible] сталінізму.**

**Копіі знойдзеных дакументаў будуць перададзены польскаму боку. Пошук архіўных матэрыялаў працягваецца.**

СТО ГАДОЎ

## СЛУЖАЦЬ ЛЮДЗЯМ

**Споўнілася сто гадоў сельскай бальніцы ў вёсцы Рыжкаўка Быхаўскага раёна. Бальніца была пабудавана па ініцыятыве і на сродкі графіні Аляксандры Талстой. Адна са старэйшых у Беларусі, гэта медыцынская ўстанова мае багатую гісторыю. Тут у розныя гады працавалі верныя інтарэсам гуманізму падзвіжнікі. У нялёгкіх умовах сельскай глыбінкі яны выратавалі тысячы жыццяў.**

**Бальніца, яе работнікі і зараз аддана служаць людзям. Праўда, юбілей ім давялося адзначаць не ў святочнай абстаноўцы. Сельская бальніца па-ранейшаму знаходзіцца ў будынку барачнага тыпу. І перспектывы пакуль не відаць.**

ЮБІЛЕЙНЫЯ РАЗВАЖАННІ

# ЧАЛАВЕК ПА ІМЕНІ ЛЕНІН

120-ю гадавіну з дня нараджэння У. І. Леніна мы сустракаем у спрэчках аб ім, аб яго ролі ў гісторыі нашай сацыялістычнай дзяржавы.

Як ні дзіўна, але, нягледзячы на ходкую фразу «аб самым чалавечным чалавеку», у асвячоным ідэалагічнай догмай вобразе Леніна менш за ўсё можна было знайсці рысы менавіта чалавечай уласцівасці. «Чалавеку ўласціва памыляцца»,—гаварылі рымляне. Менавіта гэтага і не ўмеў рабіць кананічны Ленін. Ён не проста не ўмеў памыляцца, ён не проста заўсёды меў рацыю—ён не быў здольны нават зведваць на сабе якія-небудзь уплывы збоку. Уплываў толькі ён. Ён быў Абсалютным суб'ектам, гэта значыць калі не богам, то богачалавекам як мінімум. Такая трактоўка вобраза Леніна не магла, вядома, вытрымаць абгрунтаванай навуковай крытыкі. Але і абарона гэтай трактоўкі вялася сродкамі, далёкімі ад навукі.

Але што цікава: вынікам першых крытычных выступленняў не стала «ачалавечванне» вобраза Леніна. Ленін як быў, так і застаўся Абсалютным суб'ектам. Толькі калі раней ён быў канчатковай прычынай перамог і дасягненняў савецкага грамадства, то цяпер ён стаў канчатковай прычынай з'яў негатыўных. Схема засталася такой жа «чорна-белай», як і была, якая не ўлічвае таго факта, што гісторыю робяць жывыя людзі, з іх вартасцямі і недахопамі, з іх праватой і памылкамі. А чалавек, як вядома,—гэта не толькі суб'ект, гэта і аб'ект гісторыі. І ў любым яго больш ці менш значным учынку праяўляюцца не толькі сіла яго розуму і волі, але і сіла той ці іншай тэндэнцыі грамадскага быцця. Гэта азбучная ісціна марксізму. Але чамусьці да аналізу фігуры Леніна яна прымянялася і прымяняецца вельмі рэдка. А хіба гэта не пытанне пытанняў: якія ж тэндэнцыі гістарычнага жыцця стаялі за спосабам думкі і дзеянняў правадыра рускай рэвалюцыі?

Ні для абаронцаў, ні для крытыкаў Леніна не з'яўляецца сакрэтам, што ў сваім прынцыповым светапоглядзе Ленін быў фігурай надзвычай цэльнай. Стаўшы аднойчы на пункт гледжання вучэння Маркса, ён з таго часу ішоў па выбранаму шляху, не прызнаючы нават магчымасці таго, што гэты шлях можа аказацца не адзіна правільным. Усю стракатую карціну грамадскага жыцця Ленін дзяліў на дзве дыяметральна супрацьлеглыя часткі: тое, што садзейнічае руху па адзіна правільнаму шляху, і тое, што такому руху процідзейнічае.

Непрымірымасць, нават нецярпімасць у адносінах да ўсяго, што адводзіць убок ад адзіна правільнага шляху,—гэта тое, што вылучаюць у светапоглядзе Леніна і абаронцы, і крытыкі. Але ці толькі асабістая ўласцівасць характару стаіць за гэтай рысай? Ці няма ў ёй такога, што характарызуе эпоху ў цэлым? Хіба філасофія адзіна правільнага шляху—гэта рыса толькі ленінскага светапогляду? І хіба прадстаўнікі іншых плыняў не верылі ў існаванне універсальнага ключа, з дапамогай якога можна было б вырашыць усе праблемы, што стаяць перад грамадствам? І хіба прадстаўнікі іншых плыняў не сцвярджалі, што гэты ключ знаходзіцца менавіта ў іх руках? І хіба цяпер мы не працягваем шукаць такі ж ключ, які дапамог бы нам пазбавіцца ад набалелых праблем?

Відаць, чалавецтва не дарэмна прайшло праз дзве сусветныя вайны і аказалася на грані ядзернай і экалагічнай катастрофы, каб усвядоміць, што эпосе «адзіна правільных шляхоў» павінна прыйсці на змену эпоха дыялога, эпоха кансенсусу і кампрамісу. Ісціна адна, але шляхі да яе могуць быць рознымі, і калі мы, ідучы па аднаму шляху, будзем бачыць, куды вядуць іншыя, хіба нам не стане больш ясна, дзе яна—ісціна? Але, паўтараем, для таго каб зразумець гэта, трэба было прайсці цераз насычанае палітычнымі катаклізмамі дваццатае стагоддзе. А аб якім дыялогу магла ісці размова ў самым пачатку гэтага стагоддзя, калі кожная плынь ужо ведала адказы і менавіта пад іх спрабавала падстроіць пытанні, а не наадварот? Калі класы, што «загадвалі» існуючым грамадскім парадкам, на кожным кроку нараджалі сваёй палітыкай сваіх «магільшчыкаў». Калі маючыя ўладу, нават ідучы на ўступкі сваім апанентам, тым не менш, рабілі ўсё магчымае, каб пакінуць недатыкальнымі самі асновы статус-кво, які значна падгніў. Калі пайсці на прынцыповы дыялог з грамадскімі сіламі, якія супрацьстаяць, азначала для кіруючага класа перастаць быць тым, чым ён з'яўляўся.

Сёння для палітычнага мыслення стала аксіёмай, што грамадскае жыццё на кожным кроку параджае супярэчнасці, і каб вырашаць іх, неабходна супрацоўніцтва ўсіх сацыяльных сіл. Любы рух наперад у жыцці грамадства—гэта вынік перш за ўсё пагаднення, кампрамісу паміж разнароднымі сіламі, а не іх барацьбы не на жыццё, а на смерць. Што здараецца ў выніку знішчэння адной з процілегласцей у працэсе барацьбы, савецкія людзі ведаюць са свайго горкага гістарычнага вопыту. І сённяшні стан сусветнай цывілізацыі, які няхай не ва ўсім нас задавальняе, але ўсё-такі дае веру ў існаванне гістарычнага прагрэсу, — гэта таксама вынік менавіта ўзаемадзеяння самых розных сіл і плыняў. Адной з найбольш уплывовых плыняў на працягу ўсяго XX стагоддзя быў камуністычны рух з Леніным на чале. З чалавекам па імені Ленін. З чалавекам, які падзяляў надзеі і ілюзіі свайго часу і свайго руху і ў дзейнасці якога, з усімі яго памылкамі і недахопамі, прарывалася вонкі тое самае патрабаванне лепшага жыцця, без якога немагчымы ніякі ўвогуле рух наперад.

Юрый КАРГУНЮК.

ПАД АСОБЫМ КАНТРОЛЕМ

**Якая якасць прадуктаў, што мы ўжываем? Гэтае пытанне штодзённа трывожыць многіх. А дакладны адказ на яго можна атрымаць на Мінскай санітарна- эпідэміялагічнай станцыі, дзе ёсць радыелагічная лабараторыя. Ужо праз тыдзень пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС яе супрацоўнікі штодзённа пачалі праводзіць замеры на забруджанне радыенуклідамі паветра, вады, прадуктаў харчавання. Пад асобым кантролем — прадукцыя хлеба- і малаказаводаў, мясакамбінатаў. Звяртаюцца ў лабараторыю таксама жыхары горада і розных раёнаў. Тут не адмовяцца праверыць «чысціню» мяса і малака з асабістага падвор'я, сабраных у лесе грыбоў.**





**НА ЗДЫМКАХ: мінчанін А. КАВАЛЕЎСКІ прывёз праверыць сельгаспрадукцыю са сваёй радзімы — вёскі Бакшты Іўеўскага раёна; работнікі радыелагічнай лабараторыі В. ПАНФІЛАВА (злева) і Ж. ЯНОЎСКАЯ штодзённа правяраюць прадукцыю на забруджанне радыенуклідамі.**

## ПОМНІК ВОІНАМ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАМ



У Мінску адбылася закладка каменя-помніка ў памяць беларускіх хлопцаў, што служылі ў Афганістане, прымалі ўдзел у баях і загінулі там. На месцы, дзе цяпер ляжыць памятны камень, праз нейкі час будзе стаяць помнік салдатам, якія да канца выканалі свой воінскі абавязак.

На закладцы каменя прысутнічалі былыя воіны-«афганцы», маці загінуўшых хлопцаў. Менавіта меркаванне гэтых няшчасных жанчын улічвалася пры выбары месца для помніка: ён будзе пабудаваны ў старым горадзе — Траецкім прадмесці.

НА ЗДЫМКАХ: ідзе закладка памятнага каменя, прысвечанага загінуўшым воінам-«афганцам».

Фота М. МІНКОВІЧА.



## СУСТРЭЧА З НЕЗВЫЧАЙНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ

# «АЙЦЕЦ ДЗМІТРЫЙ» У САЛДАЦКІМ СТРАІ...

**У ваенным білеце гвардыі сяржанта Д. ЯРАСЛАЎСКАГА ў графе «грамадзянская спецыяльнасць» ёсць два запісы: радыётэлемеханік і крыху ніжэй — служыцель культу. Першую спецыяльнасць ён набыў, закончыўшы школу ДТСААФ. Другая, як сам тлумачыць, «дадзена богам». На наступнай старонцы — яшчэ два запісы: аб уручэнні знакаў «Гвардыя» і «Выдатнік Савецкай Арміі». Дзмітрыю дзевятнаццаць гадоў. У яго службовай картцы — толькі заахвочванні. Паўтара года ён служыць у рамонтнай роце. Воінская прафесія — санінструктар. Да арміі ж быў протадыяканам Міхала-Архангельскай царквы ў Грозным. І далей сваё жыццё вырашыў прысвяціць служэнню богу: будзе паступаць у духоўную семінарыю.**

— На некаторых людзей словы «служыцель культу» дзейнічаюць вельмі адмоўна,— гаворыць Дзмітрый.— Яны асацыіруюцца ў іх свядомасці з нейкімі грамадска - небяспечнымі элементамі. Помню рэакцыю камандзіра вучэбнай роты, дзе я пачынаў службу. На мяне ён глядзеў з недаўменнем і трывогай. Звяртаўся да вышэйшага начальства з патрабаваннем забраць «папа» з роты, таму што ў яго, бачыце, баявая задача, а з такімі, як я... Зрэшты, гэта натуральная рэакцыя. Чаго можна чакаць ад тых, хто выхаваны ў атмасферы нецярпімасці да веруючых?

— *А як ставяцца да вас таварышы па службе?*

— Нармальна. Спачатку пасмейваліся, жартавалі. Але я іх не асуджаю. Яны выхаваны на адным-адзіным пастулаце атэізму: «Бога няма!» Гэтым і вычэрпваецца іх узровень кампетэнтнасці ў спрэчках навукі і рэлігіі.

Разам з тым я не імкнуся пераканаць іх у адваротным. Але не стамляюся паўтараць, што царства божае ўнутры кожнага з нас. Трэба прыслухоўвацца да сваёй душы. У ёй жыве добрае і вечнае.

Мы агрубелі і ачарсцвелі ў мірской мітусні. У нашых душах накапілася зло і раздражненне, якія ў любы момант гатовы выплюхнуцца на бліжняга. Нельга гэтага рабіць! Інакш пасеем яшчэ большую смуту і недавер'е адзін да аднаго.

У палку мяне завуць «айцец Дзмітрый». Я стаўлюся да гэтага нармальна. Тым больш, што бачу: да мяне цягнуцца, асабліва ў тыя мінуты, калі цяжка, калі трэба вярнуць душэўную раўнавагу. І я рады, што да майго слова прыслухоўваюцца, мне вераць. Ведаеце, у маёй прысутнасці хлопцы нават не лаюцца. А ў воінскіх жа калектывах працвітае мацяршчына — наипершая прыкмета бескультур'я.

— *Скажыце, а вам ніхто не парашкаджае ў вашым веравызнанні?*

— Усякае бывала. У вучэбным падраздзяленні мяне доўгі час не рашаліся адпускаць у царкву. Нават слухаць ніхто не хацеў. Тады я пайшоў на крайнюю меру: аб'явіў галадоўку. Дапамагло пасля першага ж снядання. У царкву тады мяне адпусцілі разам з... замфалітам роты. Найдабрэйшай душы чалавек, я яго з удзячнасцю буду помніць усё жыццё, ён разумеў недарэчнасць сітуацыі, у якую трапіў па загаду начальства, яго мучыла сумленне, але зрабіць нічога не мог. Прастаяў непадалёку ад храма божага некалькі гадзін, чакаючы мяне.

Аднойчы ў мяне забралі падшыўку часопісаў Маскоўскай патрыярхіі. Нехта ўгледзеў гэтым пагрозу маральным , тоям камсамольцаў - атэістаў. «Крамольныя» часопісы пошта́й адправілі дадому.

Трывожыць тое, што па інерцыі мінулых гадоў некатог на мяне глядзяць насцяро. на. Служыў у медпункце палка — перавялі ў рамонтную роту. Ад людзей далей, каб «прапаганду» не разводзіў: у медпункце магчымасць для сустрэч куды шырэйшая, чым у роце. Рыхтаваўся ехаць у камандзіроўку — ветліва адмовілі: тут, маўляў, ты больш патрэбны. Такі кранальны клопат. А я хачу быць, як усе!

У мотастралковым палку праблем з выкананнем рэлігійных абрадаў у мяне няма. Вольна хаджу ў царкву, сустракаюся з веруючымі. Праўда, здараюцца іншы раз казусы.

— *Напрыклад?*

Неяк перад рэлігійным святам мяне адпусцілі ў звальненне разам з веруючым радавым Яцковым. На дваіх выдалі адну запіску аб звальненні. За варотамі кантрольна-прапускнога пункта я раптам даведваюся, што мой спадарожнік — евангельскі хрысціянін-баптыст. Яму трэба спяшацца ў малітвенны дом, мне — у царкву. Размешчаны яны ў розных канцах горада. Некаму сітуацыя можа здацца камічнай, але нам, паверце, тады было не да смеху. Гэтай паперкай мы аказаліся моцна прывязанымі адзін да аднаго.

«Вось што, брат мой,— сказаў тады я яму,— вядзі мяне ў малітвенны дом, іншага выйсця ў нас няма». Грэх, вядома, мне, праваслаўнаму хрысціяніну, замест царквы аказацца ў дзень свята ў малітвеным доме. Але яшчэ большы грэх — парушыць воінскі парадак, які ў даны момант для нас увасаблялася запіска аб звальненні. Вось так я правёў дзень сярод сектантаў.

— *І ўсё ж такі ў армейскіх умовах цяжка выконваць рэлігійныя абрады...*

— Па шчырасці кажучы, так, вельмі няпроста. Салдацкая служба звязана з непазбежнымі цяжкасцямі і нягодамі. Я гэта разумею і не бачу трагедыі, скажам, у тым, што ў час вучэння мне не выпадае наведаць царкву.

Летась перад веснавым пастом (а гэта сем тыдняў) я адправіўся на прыём да мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Папрасіў у яго прэасвяшчэнства парады, як мне, салдату, прытрымліваецца паста. Ежу гатуюць для ўсіх жа аднолькавую, у салдацкай сталовай. Выслухаўшы мяне, уладыка сказаў: «Ты воін, сын мой, абаронца Айчыны. Харчуйся разам з усімі. Але не шчыруй». Такім чынам і вырашылася ўвогуле няпростая для мяне праблема.

— *Вы ўжо працяглы час на Беларусі. Ці падабаецца вам тут?*

— Вельмі! Добрыя, зычлівыя людзі, прыгожая зямля... Ведаеце, за паўтара года я прывык да рэспублікі, дзе мне выпала служыць, палюбіў яе. І хацеў бы застацца тут пасля службы назаўсёды. Між іншым, сказаў пра гэта і яго прэасвяшчэнству мітрапаліту Філарэту. Я думаю, ён зразумеў мой душэўны парыў, паабяцаў рэкамендаваць на вучобу ў духоўную семінарыю.

— *Але вернемся да вашага вайсковага жыцця. Як наогул ідзе служба?*

— Сапраўдная вера служба ніколі не перашкаджае. Гасподзь паслаў мне выпрабаванні ў выглядзе службы ў арміі, якую я павінен прайсці з крыжам у душы, ахоўваючы мір на зямлі. Што тычыцца цяжкасцей і нягод, то яны загартоўваюць цела і ўмацоўваюць душу.

Мой духоўны пастыр, айцец Пётр, гаварыў мне перад прызывам: «Царква заўсёды благаслаўляла веруючых на абарону Айчыны, таму што глядзіць на гэта як на святы абавязак».

Дарэчы, я мог і не служыць у арміі. Тры месяцы перад прызывам правёў сярод манахаў Троіцка-Сергіевай лаўры. Думаў цалкам прысвяціць сябе служэнню богу, адмовіцца ад усяго людскога.

— *І ўсё-такі не пастрыгліся ў манахі. Чаму?*

— Прычын некалькі. Галоўнае — мару, каб у мяне быў наследнік, які б прадоўжыў у будучыні маю справу. Не паверыце — і аб службе ў арміі думаў. Гэта сапраўды мужчынская справа. Я не хацеў бы, каб потым мае прыхаджане бачылі ўва мне чалавека, які не зведаў на сабе тое, што зведалі яны.

— *Дзмітрый, а ці здараліся ў вас за паўтара года непрыемнасці ў салдацкай службе?*

— Гавораць, што ад спагнанняў не застрахаваны ніводны, нават самы сумленны салдат. Ахвотна веру гэтаму. Служба цяжкая, памылицца кожны можа. Але да мя ог літасцівы — ні разу не б ккараны камандзірамі.

А непрыемнасці... Аднойчы трапіў у такую гісторыю. Вяртаўся ў полк з кароткатэрміновага адпачынк трымаўся на сем сутак па ыне надта сур'ёзнай: вянчаўся са сваёй абранніцай. Пад вянец, дарэчы, пайшоў у ваеннай форме. У часць перад гэтым адправіў тэлеграму. Камандзір дазволіў прадоўжыць водпуск...

У Кіеве на вакзале мяне затрымаў патруль. Дакументы мае аказаліся не так афармленымі, як прынята. Паказаў даведку аб вянчанні, выдадзеную настаяцелем царквы. Мяне прынялі за дзівака — хто сёння вянчаецца ў царкве, у кожным раёне ж ёсць ЗАГС. Затрымалі, вядома. Не ведаю, колькі часу давялося б мне правесці на гарнізоннай гаўптвахце, калі б не дабіўся прыёму ў каменданта, а затым у начальніка гарнізона. Яны мне паверылі. Прыемная наша гутарка ішла больш за дзве гадзіны ў поўным узаемаразуменні. Развітваючыся, я падарыў ім па іконе і пажадаў, каб у іх сэрцах ніколі не знікала вера, надзея і любоў да падначаленых.

— *Хто ваша «матушка», калі не сакрэт?*

— Яе завуць Ірына, ёй васемнаццаць гадоў. Як і я, яна чалавек глыбока рэлігійны. Пазнаёміліся мы тры гады назад, абодва спявалі ў царкоўным хоры. У яе цудоўны голас — сапрана. Будзе паступаць у рэгенцкі клас духоўнага вучылішча.

— *Дзмітрый, вы сказалі, што спявалі ў царкоўным хоры. А сучасныя рытмы — як вы да іх ставіцеся?*

— У школе я хадзіў на дыскатэкі. Сам нават некалі пісаў свецкія вершы і музыку. А вось сучасныя танцы не прымаю. Іграю на баяне. Летась быў піянерважатым у лагеры, дзе адпачывалі дзеці нашых камандзіраў. Догмы, як бачыце, разбураюцца — ніхто з іх не пабаяўся, што я ўнясу сумятню ў слабыя юныя душы.

Гутарку вёў Васілій ЗДАНЮК.

## ІДЭІ ВАШЫ— ГРОШЫ НАШЫ

Гэты банк неабходны ўсім, у каго ёсць «шалёныя» ідэі, але няма сродкаў іх увасобіць. Маецца на ўвазе беларускі інавацыйны банк, які з'явіўся зусім нядаўна. Чаму ўзнікла неабходнасць стварэння новай фінансавай установы?

Асноўная прычына — з'яўленне новых прадпрыемстваў, арганізацый, кааператываў, якія вылучаюць смелыя навукова-тэхнічныя ідэі і маюць патрэбу ў падтрымцы. Задача банка — крэдытаванне, фінансаванне і пасрэдніцтва ў галіне навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Інавацыйны банк камерцыйны, уваходзіць у адзіную банкаўскую сістэму краіны. Стварыўся на паявой аснове. Заснавальнікамі сталі 44 прадпрыемствы і арганізацыі рэспублікі. Сярод іх — буйнейшыя аб'яднанні «БелаўтаМАЗ», «Атлант», «Гарызонт», трактарны завод, Мінлегпром, Міндарбуд, Мінтранспарт, шэраг вышэйшых навучальных устаноў.

Зарэгістраваны ён год назад і пачаў з трох мільёнаў рублёў. На пачатак гэтага года на балансе ў банку ўжо было 65 мільёнаў. Супрацоўнічае ён з дзяржаўнымі прадпрыемствамі, кааператывамі, прыватнымі асобамі.

Так, сумесна з Наваельненскім раённым аграпрамысловым аб'яднаннем стварае вытворчасць агрэгатаў па ўнясенню тукапестыцыдаў. Іх укараненне дазволіць знізіць расход угнаенняў, зменшыць забруджанне прадукцыі нітратамі, павысіць ураджайнасць. На Гомельскім шклозаводзе дапамагае наладзіць выпуск аўтамабільнага шкла. Фінансуе работу аднаго з інстытутаў Сібірскага аддзялення АН СССР па стварэнню новых метадаў ачысткі газавых выкідаў і г. д.

Удзельнічае інавацыйны банк і ў стварэнні новых прадпрыемстваў і арганізацый. Ён прадставіў фінансавыя рэсурсы ў арганізацыю лабараторыі вынаходніцкіх машын. Стварае таксама малыя прадпрыемствы, праз якія лягчэй ідзе працэс укаранення перадавой тэхналогіі.

Банк падтрымаў ініцыятыву беларускага творчага цэнтра савецка-амерыканскай праграмы «Дзеці — творцы XXI стагоддзя», які вядзе збор сродкаў на будаўніцтва Рэспубліканскага дзіцячага гематалагічнага цэнтра. Ён выдзеліў ім крэдыт 300 тысяч рублёў.

## 45-ГОДДЗЕ ПЕРАМОГІ

**Толькі згоніць вясёлае веснавое сонейка талы снег, віцябчанін Уладзімір Масюцін адкладвае хатнія клопаты і спяшаецца прывесці ў парадак сціплы абеліск ля дарогі, непадалёку ад дома, устаноўлены ў памяць невядомага савецкага салдата, загінуўшага пры абароне Віцебска. Ужо многія гады ветэран Вялікай Айчыннай даглядае гэты сціплы ўзгорачак з помнікам і агароджай, аберагае яго ад забыцця, не дае ў крыўду.**

**«Упарты стары», гаварылі пра яго дарожнікі, калі Уладзімір Паўлавіч не дазволіў ім знесці абеліск «у сувязі з вытворчай неабходнасцю». — Ёсць рэчы больш неабходныя чалавеку, чым прамы адрэзак дарогі, — справядліва лічыць былы салдат-артылерыст. Права на такое сцвярджэнне, на асаблівыя адносіны да гісторыі краіны, да яе неацэнных рэліквій Уладзімір Масюцін заслужыў усім сваім жыццём.**

**...Ад Сталінграда да Берліна, амаль сем тысяч доўгіх кіламетраў жорсткай вайны прайшоў артылерыст Масюцін са сваёй 76-міліметровай гарматай, знішчаючы ворага, страчваючы таварышаў, набліжаючы Вялікую Перамогу. Цераз Днепр і Сож, Віслу і Одэр, па палескіх балотах і польскіх палях ішоў баявы разлік, у якім за вайну змагалася каля двухсот чалавек. І толькі двое дайшлі да Берліна: камандзір гарматы Гаўрыіл Гусеў і наводчык Масюцін. Сёння «масюцінскі» ЗІС-3 № 4940 можа ўбачыць кожны, хто наведае Цэнтральны музей Узброеных Сіл СССР. Зрэдку наведваецца сюды і сам ветэран, пры поўным парадзе, з ордэнамі Славы III ступені, Айчыннай вайны I ступені, Чырвонай Зоркі, шматлікімі медалямі. Прысядзе на лафет, не апасаючыся свісту варожых снарадаў, успомніць баявых сяброў.**

**Суровыя гады вайны — усяго толькі**



**часцінка багатай біяграфіі ватэрана. У мірны час Уладзімір Паўлавіч выбраў прафесію будаўніка. Спачатку вучыў гэтаму ж хлапчукоў, а затым па ўласнаму жаданню пайшоў на будоўлю, дзе і працаваў да пенсіі брыгадзірам комплекснай брыгады. І ў мірным жыцці ён не шукаў лёгкіх дарог, стараўся дабудаваць, дамарыць за тых, хто не вярнуўся.**

**...Побач з абеліскам пасадзіў салдат Масюцін дрэва. Па вясне яно ўспыхвае кветкамі, нібы салютуе. Няхай помніць свет выратаваны...**

**К. СЕВЯРЫНЕЦ.**

**Н[illegible] ЗДЫМКАХ: ля абеліска з унучкаю Волечкай; гвардыі сяржант Уладзімір МАСЮЦІН. 1944 год; сустрэча Уладзіміра МАСЮЦІНА з аднапалчанінам, былым артылерыйскім ма[illegible]трам Фёдарам КУЗНЯЦОВЫМ.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**





## *МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ: ХВАЛЯВАННІ І НАДЗЕІ*

# АПТЫМІЗМ—У ДАПАМОЗЕ ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ

Пашырэнне братэрскіх сувязей з сябрамі-беларусамі Беласточчыны — пазітыў і заваёва перабудовы. Таму з вялікай цікавасцю мы сустракаем кожную вестку ад іх. На гэты раз прынёс яе ў таварыства «Радзіма» старшыня грамадскага Камітэта па будаўніцтву Беларускага музея ў Гайнаўцы **Канстанцін МАЙСЕНЯ.**

**— Ад старшыні найперш за ўсё хацелася б даведацца, як ідзе будаўніцтва музея. Можа ўжо рыхтуецеся да ўваходзін?**

— Так яно і ёсць у нейкім сэнсе. Але справа выглядае даволі складана. Канчаецца фінансавае забеспячэнне, засталося семсот долараў на рахунку. А гэта значыць, што мы не здольныя даць будаўнічаму прадпрыемству фронт работ і вымушаны весці будаўніцтва гаспадарчым спосабам. А калі збяромся з сіламі, зноўку падпішам пагадненне з будаўнікамі.

Агульная карціна сёння такая: мы пабудавалі частку «А» музейнага комплексу. У «Б» выконваецца ўнутраная апрацоўка. Частку «Ц» будзем узводзіць па меры таго, як пойдзе накапленне дадатковай колькасці грошай.

Такім чынам, плануецца давесці да завяршэння будаўніцтва музея перад канцом гэтага года. Ужо праз пару месяцаў у частцы «А» адкрыецца міні-музей, якому будзе папярэднічаць выстаўка твораў беларускіх мастакоў. Яе мы ладзім сумесна з Беларускім фондам культуры, Міністэрствам культуры і шэрагам іншых арганізацый БССР.

**— Вы ска[illegible] што не стае грошай... Наколькі я [illegible]эдчаны, пры пачатку будаўніцтва — а было гэта яшчэ перад прыходам да ўлады «Салідарнасці» — існавала дамоўленасць, што дзяржава будзе перыядычна асігноўваць на патр[illegible] грамадскага камітэта адпаведныя [illegible]...**

— Сапраўды, тады ваявода абяцаў, што 70 працэнтаў кошту будаўніцтва нам выплацяць з дзяржаўнага бюджэту, а 30 мы возьмем з ахвяраванняў грамадскасці. Атрымалася наадварот. Нават больш таго, лічаныя разы сённяшнія ўлады падтрымалі нас фінансава. Безумоўна, асноўныя прычыны трэба шукаць у крызісным эканамічным становішчы краіны. Заробак у нас польскі, а цэны — заходнія. Адзін стальны ліст каштуе 8 мільёнаў злотых. А ўся пабудова абыдзецца больш як 1 мільярд злотых.

**— Дык на чым грунтуецца ваш аптымізм!**

— Маем моцную надзею, што польскія мясцовыя органы звернуць на нас увагі і знойдуць тыя рычагі, што палепшаць стан рэчаў. Урэшце, нельга сказаць, што ўлады наогул адмаўляюць нам у падтрымцы. Напрыклад, гайнаўскае кіраўніцтва дапамагло вырашыць праблему абкладання таможнай пошлінай тых сум, якія мы атрымалі з Беларусі. Дадам, што нядаўна нас наведала сеймавая камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцей. Мы расказалі высокім гасцям аб нашых цяжкасцях, падалі ім спіс неабходных матэрыялаў. А з боку паслоў сейма пачулі абяцанне зрабіць усё магчымае, каб выправіць недахопы.

Агульнавядома, што самы дзейсны ўдзел у ажыццяўленні нашай задумкі бралі і бяруць замежныя беларусы Захаду і Усходу. Асабліва вялікі водгалас, 17 тысяч долараў, атрыманы ад землякоў з ЗША, Канады, Англіі, Бельгіі, Францыі, Аўстраліі, ФРГ. Ёсць вялікая надзея, што гэта не апошняе іх слова. Спадзяёмся і на працяг супрацоўніцтва з БССР.

Хацеў бы я з прыемнасцю адзначыць, што і сама грамадскасць Беласточчыны значна актывізавалася апошнім часам, асабліва моладзь, студэнты. Усё робіцца на грамадскіх, дабрачынных пачатках. Як бачыце, існуюць-такі падставы для аптымізму.

**— Відаць, гэты рух за адраджэнне беларускай культуры, мовы абудзіў і палітычную свядомасць беларусаў беластоцкага краю: у шматпартыйнай сям'і Польшчы з'явілася новая партыя. Якая яе платформа, сацыяльная база, мэты!**

— Так. На самай справе некалькі тыдняў таму быў праведзены заснавальніцкі кангрэс, дзе і паўстала Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Яго заснавальнікі бачаць партыю незалежнай і некамуністычнай, якая імкнецца да эканамічнай, палітычнай, культурнай самастойнасці беларускай меншасці. Аб'яднанне выступае за аўтанамізацыю, за дыялог з сацыял-дэмакратычнай і іншымі партыямі, з царквой. Новая палітычная адзінка шукае апору ў асяроддзі інтэлігенцыі, студэнтаў, сялянства, моладзі, галоўным чынам. Зроблены першыя спробы практычнай дзейнасці. На тэлебачанні адбылася сустрэча польскіх палітыкаў і актыву з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей. Абмяркоўваліся вострыя пытанні, якія стаяць на парадку дня міжнацыянальных узаемаадносін. Там выступіў старшыня БДА Сакрат Яновіч і сакратар Віктар Стахвюк. Пасля іх выступлення прысутныя палякі горача даказвалі, што не ведалі гэтай праблематыкі, што здзіўлены праявамі шавінізму ў Польшчы, фактамі негатыўнага стаўлення да дзеячаў беларускай культуры, пісьменнікаў, нашых асяродкаў.

Скарыстоўваючы нагоду, я хацеў бы ад імя грамадскага камітэта сказаць тым суайчыннікам ва ўсіх кутках свету, якія прыслалі свае ахвяраванні на пабудову Беларускага музея, што ім належыць наша самая шчырая падзяка. Лучу з ёю таксама арганізацыі і ўстановы Беларусі, таварыства «Радзіма», усіх індывідуальных ахвярадаўцаў. Падкрэслю, што тыя сродкі, якія мы атрымліваем, адразу накіроўваюцца на месца прызначэння.

Запрашаем да нас у госці альбо на экскурсію ў Гайнаўку, дзе можна знайсці адпачынак і ў недалёкай будучыні—добрыя варункі ў гатэлі музея. Звяртаюся з прапановаю да ўсіх, каго гэта тычыцца: Беларускі музей у Гайнаўцы зацікаўлены ў партнёрскіх сувязях з гандлёвымі, рамеснымі і іншымі кааператывамі і суполкамі. Мы ўжо цяпер у стане выконваць заказы на выраб нацыянальных строяў.

**Гутарку вёў Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## *ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ПРЫЦЯГНЕННЕ РАДЗІМЫ

Паважаная рэдакцыя!

Я заўсёды вельмі радуюся, калі прыходзіць пісьмо з дому ці ваша газета. Яны выклікаюць у мяне пачуццё любві і ўздыханні: ах, гэта ж з маёй роднай Беларусі! Многа разоў я бываў у Мінску, гасцяў у сястры, наведваў веруючых не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах і вёсках Бацькаўшчыны. І ўсюды ўсё мне было мілым і родным. Калі бываю на сходах веруючых і гляджу на твары людзей, яны мне здаюцца такімі блізкімі і дарагімі. Калі іду па вуліцах Мінска, заўсёды ўглядаюся ў кожны дом. У вёсцы любуюся кожным кусцікам, бярозавым гаем. Праязджаючы палі і сенажаці, адчуваю нейкае невытлумачальнае прыцягненне маёй душы да ўсяго гэтага. Так, туга па Радзіме з'ядае чалавека. Але я ведаю, што людзі, якія жывуць на роднай беларускай зямлі, не бываюць за мяжой, гэтага не ўяўляюць. Яны лічаць, што ў нас на Захадзе цвітуць кветкі ў спёку і ў холад. Толькі гэта міраж, які падманвае чалавека.

Я проста ад душы прызнаюся і пішу вам усім ісціну пасля ўсяго, што я бачыў у Беларусі. Такой любові і адносін я нідзе на Захадзе не сустракаў. У нас тут няма такіх благаславенных сходаў веруючых. Вядома, форма нібыта ёсць, але сілы Божай няма. Я вельмі здзіўлены, што многія веруючыя эміграваюць з СССР. Пытаюся сам у сябе, чаму яны едуць на Захад ці ў Амерыку, чаго шукаюць? Цяпер у СССР ёсць свабода: маліся, прапаведуй. Нават у Дамах культуры ўлады дазваляюць праводзіць вечары Біблії. Некаторыя ўсё гэта пакідаюць, не ведаючы, што іх чакае. Але, калі б маю пенсію пераравілі, то я адразу ж вярнуўся б у Мінск, да маіх братоў і сёстраў па веры, незалежна ад таго, хто і як падумаў бы пра мяне: дрэнна ці добра. На гэтым тыдні я атрымаў пісьмо ад аднаго веруючага брата. Ён напісаў так. Маўляў, да нас прыехала многа пяцідзесятнікаў з СССР. Яны спачатку мелі адно ўяўленне, але цяпер яно змянілася: няма работы, жывуць за кошт дапамогі і міласэрнасці. Будучыня ў іх зусім няясная. Пачынаюцца сярод іх спрэчкі, нараканні, маркота і г. д. Я толькі здзіўляюся, як людзі добраахвотна трапляюць у сетку духоўнага падзення. Нікому гэтага не раю рабіць. Колькі ёсць працы на Радзіме сярод хворых, адзінокіх і старых! Чаму пакідаеце свой народ? Адумайцеся і спыніцеся. Пачніце працаваць для свайго народа, на сваёй Радзіме — і Бог будзе з вамі!

**М. МЕЛЬНІК.**

ФРГ.

# НАК У БЕЛАРУСІ?..

А чаму б і не! Нацыянальныя Алімпійскія камітэты ўжо створаны ў многіх саюзных рэспубліках СССР. Галоўнай сваёй мэтай яны ставяць прапаганду фізічнага ўдасканальвання людзей, барацьбу за чысціню спартыўных ідэалаў, усямернае расшырэнне міжнародных кантактаў. Тыя пазітыўныя перамены, што адбываюцца цяпер у многіх краінах свету, не маглі не закрануць перабудову алімпійскага руху як у Савецкім Саюзе, так і непасрэдна ў Беларусі.

Такім чынам, Алімпійскія камітэты створаны ў многіх рэспубліках СССР. Шлях, як кажуць, пракладзены. Значыць, Беларусі будзе лёгка цяпер ісці па ім?

— Не зусім, — адказвае спартыўным журналістам першы намеснік старшыні Дзяржкамспорту БССР Аляксандр Хандогін. — Бо мы не хочам капіраваць Алімпійскія камітэты іншых рэспублік. Тым больш, што некаторыя з іх супярэчаць нашым, савецкім ідэалам. Узяць, напрыклад, Прыбалтыку. Іх камітэты вядуць барацьбу за абсалютна самастойнае прадстаўніцтва ў міжнародным алімпійскім руху. На практыцы гэта азначае, што Літва, Латвія, Эстонія імкнуцца да поўнага аддзялення.

Наша ж пазіцыя пры арганізацыі НАК Беларусі адназначная: спартсмены рэспублікі павінны выступаць за зборную краіны на Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і Еўропы.

Хаця мы разумеем тым не менш заклапочанасць грамадскасці рэспублікі, якая імкнецца да суверэнітэту, карыстаецца сталым аўтарытэтам на міжнароднай арэне, мае цудоўныя спартыўныя традыцыі. А таму лічым, што ўжо цяпер каманда БССР мае ўсе падставы ўдзельнічаць асобна ў міжнародных спаборніцтвах, апрача вышэйназваных. А далей, як гавораць, пакажа час.

Якімі бачацца асноўныя напрамкі дзейнасці Алімпійскага камітэта Беларусі?

Маючая адбыцца ўстаноўчая канферэнцыя сфармулюе іх дастаткова дакладна. Цяпер рыхтуюцца вызначальныя дакументы, у тым ліку альтэрнатыўныя праекты статута. У выпрацоўцы іх прымаюць удзел вядомыя і паважаныя ў свеце спорту людзі: А. Бялова, А. Мядзведзь, член НАК СССР прафесар Р. Жбанкоў, прадстаўнікі абласных і рэспубліканскіх спорткамітэтаў і іншыя. Але ў вызначэнні галоўных мэт і задач Алімпійскага камітэта ў асноўным разыходжанняў няма.

Гэта, у прыватнасці, умацаванне адзінства алімпійскага руху, садзеянне развіццю масавага спорту ў рэспубліцы, яго папулярызацыі, стварэнне і падтрымка розных фондаў і дабрачынных арганізацый, ахова інтарэсаў спартсменаў, трэнераў, ветэранаў фізічнай культуры, расшырэнне міжнародных сувязей і гэтак далей. Апрача гэтага, камітэт павінен аб'яднаць і актывізаваць дзейнасць усіх федэрацый па відах спорту і іншых спартыўных арганізацый рэспублікі.

Алімпійскаму камітэту такія задачы пад сілу: той аўтарытэт, якім здаўна заслужана карыстаецца фізкультурна-спартыўны рух Беларусі, дапаможа іх паспяхова вырашыць.





У Мінскім Палацы тэніса завяршылася першынство Савецкага Саюза сярод дзяўчат. Каля ста юных тэнісістак з многіх гарадоў краіны змагаліся за прызы гэтых спаборніцтваў. Поспех спадарожнічаў мінскім спартсменкам. Сярод дзяўчат 1974 года нараджэння перамогу ў асабістых спаборніцтвах атрымала Таццяна Ігнацьева, а сярод 1976-га—Ганна Смашнова.

Усе пераможцы—выхаванкі аўтазаводскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы алімпійскага рэзерву па тэнісу.

НА ЗДЫМКАХ: у час спаборніцтваў; пераможца сярод дзяўчат старэйшага ўзросту мінчанка Таццяна ІГНАЦЬЕВА.

Фота Г. СЯМЁНАВА.

## «ЗОРКІ» АДПРАЎЛЯЮЦЦА ЗА МЯЖУ

Летась пачалася сапраўдная міграцыя савецкіх спартсменаў за мяжу. Ужо адзін пералік іх прозвішчаў пацвярджае той факт, што ў «профі» адправіліся «зоркі» сусветнай велічыні: хакеісты Вячаслаў Фяцісаў, Сяргей Макараў, Уладзімір Крутаў, футбалісты Алег Блахін, Хангіз Хідзіятулін. Пералік можна працягваць...

Міграцыйны бум закрануў і спартыўную арганізацыю нашай рэспублікі. За мяжу паехалі Сяргей Алейнікаў, Сяргей Гоцманаў, Віктар Сокал, Сяргей Тукмачоў...

Вядома, калі браць матэрыяльны бок, то тут выгада немалая. Спартсмены займелі вялікія грошы, значныя сумы атрымалі Дзяржкамспорт СССР і камітэты саюзных рэспублік, клубы, за якія раней выступалі «зоркі».

Але ж ёсць і іншы бок гэтай справы. І ён не можа не хваляваць у першую чаргу балельшчыкаў. Сёння ж стала добра вядома: шчодрае раздорванне «зорак» прывяло да ўпадку некалі вядомых клубаў, а часам і відаў спорту. Далёка хадзіць за прыкладам не трэба: няўдала выступілі ў розыгрышы еўрапейскіх кубкаў па футболу маскоўскі «Спартак», кіеўскае «Дынама», страціў чэмпіёнскі тытул ЦСКА.

Асабліва востра адбіўся ад'езд за мяжу вопытных спартсменаў на выніках выступлення ў першынстве краіны мінскага «Дынама». Цяпер каманда перажывае крызіс. Няма каму замяніць тых жа Алейнікава, Гоцманава... Мінчане страчваюць ачкі, знаходзяцца ў канцы турнірнай табліцы. А, галоўнае, страчваюць балельшчыкаў. Гульні праводзяцца пры паўпустых трыбунах.

На днях пачынаецца першынство свету па хакею, не за гарамі чэмпіянат свету па футболу. І савецкія аматары жывуць пакуль у трывозе: а ці адпусцяць замежныя клубы ў зборныя СССР «зорак»? А калі і адпусцяць, то ці будзе паміж імі і тымі, хто трэніруецца зараз дома, сыгранасць? Трывога мае падставы. Апошнія кантрольныя гульні зборных прынеслі мала аптымізму балельшчыкам. Хакеісты СССР у таварыскіх сустрэчах прайгралі па матчу камандам Швецыі і Фінляндыі. Неперакана-ўча выступілі і футбалісты са зборнай Галандыі. Так што аматарам спорту краіны мала пакуль радасці ад таго, што пераход «зорак» у прафесіянальныя клубы ідзе поўным ходам.

Е. ІВАНОЎ.

## ЧЭМПІЯНАТЫ, ТУРНІРЫ, СУСТРЭЧЫ

ШАХМАТЫ. У Еўпаторыі завяршыліся адборачныя спаборніцтвы да чэмпіянату свету сярод дзяўчат. Першае месца тут заняла мінчанка Юлія Левітан. І цяпер яна вырашае задачу: гуляць у чэмпіянаце свету сярод старэйшых дзяўчат у Чылі ці выступіць у турніры малодшых у Сінгапуры.

ФУТБОЛ. Зборная СССР прымала ў таварыскім матчы каманду Галандыі і перамагла з лікам 2:1. Гэта была першая міжнародная сустрэча нашых футбалістаў перад чэмпіянатам свету ў сёлетнім сезоне. У гульні з галандцамі прымалі ўдзел мінчане Сяргей Алейнікаў і Андрэй Зыгмантовіч.

САМБА. Каля двухсот спартсменак з 13 краін прымалі ўдзел у міжнародным турніры памяці А. Харлампіева. Беларуская самбістка Ірына Емяльянава стала пераможцай у вагавой катэгорыі звыш 80 кілаграмаў.

Ірына, а таксама яе сяброўка па зборнай рэспублікі Таццяна Масквіна цяпер рыхтуюцца да першынства Еўропы, што пройдзе ў маі ў ФРГ.

ТЭНІС. За апошнія паўмесяца Наталля Зверава гуляла ў некалькіх міжнародных турнірах. Найбольшага поспеху беларуская тэнісістка дамаглася ў амерыканскім горадзе Хілтан Хэд Айлендзе, дзе ў пары з іспанкай М. Пас заняла другое месца.

ГАНДБОЛ. Пасля жараб'ёўкі ў штаб-кватэры ІГФ у Базелі стаў вядомы сапернік мінскага СКА ў паўфінале розыгрышу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў — заходнегерманскі клуб ТУСЕМ. Гульні адбудуцца ў канцы красавіка.

ШАШКІ. Тры дні ў Мінску праходзіў таварыскі матч стаклетачнікаў Беларусі і Галандыі. З лікам 39 : 27 перамаглі шашысты нашай рэспублікі.

ГІМНАСТЫКА. Мінчанка Святлана Багінская і масквіч Валянцін Магільны сталі лепшымі на IV міжнародным турніры ў Парыжы.

## «СНЕЖНЫЯ БАРСЫ» ПАКАРАЮЦЬ ЭВЕРЭСТ

# НЯМА ВЫШЭЙШАЙ ВЯРШЫНІ

Падзея неардынарная: другая савецкая экспедыцыя ў гэтыя дні пачала ўзыходжанне на самую высокую вяршыню свету Джамалунгму (Эверэст). Разам з нашымі альпіністамі ў акцыі, якая называецца «Узыходжанне свету» і праводзіцца ў праграме Гульняў добрай волі, прымаюць удзел амерыканскія і кітайскія спартсмены.

Падняцца на Джамалунгму — мара кожнага альпініста. Але толькі нямногім удалося пакарыць яе. Нават вопытным спартсменам не хапала сіл, часам — мужнасці і вынослівасці, каб зрабіць узыходжанне на гару.

Вось чаму так скрупулёзна адбіраліся кандыдаты ў каманду СССР. Прыемна адзначыць, што сярод пакарыцеляў завоблачных вяршынь аказаўся і мінчанін Эдуард Ліпень.

Альпініст добра вядомы далёка за межамі рэспублікі. Да гэтага ён зрабіў узыходжанне на ўсе самыя высокія вяршыні СССР: пік Леніна, пік Камунізму,.. якія адносяцца да «сямітысячнікаў». Менавіта за пакарэнне іх адважнаму спартсмену было прысвоена званне «снежны барс».

Э. Ліпень працуе асістэнтам на кафедры дзіцячай хірургіі Мінскага медыцынскага інстытута. Узначальвае Федэрацыю альпінізму БССР.

Перад ад'ездам у Маскву пасланцу нашай рэспублікі была ўручана шкатулка з зямлёю, узятай з Кургана Славы пад Мінскам. Яна будзе ўстаноўлена на Джамалунгме. Святыню спартсмен атрымаў з рук Героя Савецкага Саюза Паўла Маладых. Ён вызначыўся ў баях пры вызваленні Беларусі. Уручаючы шкатулку Эдуарду Ліпеню, Павел Пятровіч сказаў:

— Няхай гэта зямля, якая шчодра паліта крывёю нашых воінаў-вызваліцеляў, стане яшчэ адным помнікам савецкаму народу, сімвалам Вялікай Перамогі яго над фашызмам.

Нялёгкі шлях чакае альпіністаў. З Масквы яны вылецелі самалётам у Пекін, пасля поезд даставіў іх у цібецкі горад Лхаса.

Узыходжанне мужныя спартсмены вырашылі зрабіць з паўночнага боку гіганцкай вяршыні — самай складанай, цяжкай і небяспечнай. Завяршыць штурм піка да чэрвеня.

Атрыманы першыя звесткі ад беларускага альпініста з Лхасы. У прысланай ім тэлеграме кароткая інфармацыя: «Знаходзімся на вышыні 3 700 метраў над узроўнем мора. Пагрузілі на сем машын 25 тон экспедыцыйнага грузу. Як самы дарагі з іх — шкатулка са свяшчэннай зямлёй з Кургана Славы. Аўтамабільны караван працягвае рухацца да Джамалунгмы».

Мяркуем, што адважныя альпіністы паспяхова завершаць штурм вяршыні. І нам удасца сустрэцца з Э. Ліпенем і больш падрабязна расказаць у газеце аб гэтым нялёгкім узыходжанні. Пажадаем удачы мужным спартсменам.

П. УЛАДЗІМІРАЎ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97,
33-02-80, 33-03-15,
33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 503